# Тыднёвік Магілёўскі




№ 18 (59) 6 траўня 1999 г. Кошт свабодны


## Вайна і перамога

*«Вайна была даўно, за паўстагодзьдзя вырасьлі новыя пакаленьні. Шкада, аднак, што людзкая памяць пра яе ня толькі скарачаецца ў сваіх магчымасьцях, але й падмяняецца нібы якой антыпамяцьцю, актыўна капітулюючы перад прапагандаваймі стэрэатыпамі. Мы перамаглі лютага ворага – нямецкі фашызм, але ці маем мы права забывацца пра кошт нашай перамогі? І якія яе сапраўдныя мэты – ці толькі разгром фашызму? Што мы прынесьлі на сваіх штыхах вызваленым народам Эўропы? Наколькі ашчасьлівілі палякаў, чэхаў, славакаў, вэнграў, румынаў, балгар і югаславаў, якія й дагэтуль ня могуць выграбціся з выкапанага для іх рова сацыялістычнага шчасьця? Праз паўстагодзьдзя пасьля нашай перамогі, можа, варта задаць сабе элемэнтарнае пытаньне: што мы маем ад той нашай перамогі? Вось немцы, напрыклад, не перамаглі, не перамаглі таксама італьянцы і японцы – стрывалі грандыёзныя нацыянальныя катастрофы. Але з тых катастрофаў яны зрабілі пэўныя высновы і ў выніку так добраўпарадкавалі сваё жыцьцё, як нам не ўпарадкаваць яго ніколі. Значыцца, ці такая адназначная для нас наша гістарычная перамога? Можа, тоіцца ў ёй штосьці і яшчэ, болей для нас важнае? Ці гэта Ўладар сусьвету так адмыслова разьмеркаваў сваю боскую міласьць: каму пустазвонства перамогі, а каму камфортнае жыцьцё? Каб усё па справядлівасьці, як таго і патрабуе мілы для нашых сэрцаў сацыялістычны прынцып разьмеркаваньня зямнога шчасьця.*



*Чым болей часу мінае з памятнага траўня 1945 году, тым болей пытаньняў ставіць мінулая вайна. Абясцэньваюцца шмат якія зь нядаўных каштоўнасьцяў, узьнікаюць новыя. Маладым пакаленьням здаецца, што для іх настаў час, не зьвязаны з праклятым мінулым, якое стала заслужаным лёсам іхных бацькоў і дзядоў. Але пачакаем з высновамі. Усё-ж шмат што ў сьвеце зьвязанае моцнай вяроўчынай, не разблытаўшы тугія вузлы якой, ня надта пасунесься ў шчасьлівую будучыню. Хоць гісторыя, як вядома, нічому ня вучыць, але й вучыцца ў сябе нікому не забараняе. Таму, вядома, хто хоча чаму-небудзь навучыцца. Для іншых яна – непатрэбная рэч. У тым ліку і гісторыя мінулай і крывавай вайны».*

***Васіль БЫКАЎ***
***(Кніга «Сьцяна»)***

## РЭЙТЫНГ ПАДЗЕЯЎ ЗА КРАСАВІК ПАВОДЛЕ «ТМ»

*СТАНОЎЧЫЯ ПАДЗЕІ*

*– Спрыяльны для дэмакратычных сілаў разгляд «беларускага пытаньня» на паседжаньні Рады Эўропы, якая не паддалася чарговай спробе лукашэнкаўскага рэжыму легітымізаваць сябе праз гэтую арганізацыю*

* * *

*– Прыняцьце Соймам БНФ у выніку вострай дыскусіі канчатковага рашэньня аб неабходнасьці давядзеньня прэзыдэнцкай выбарчай кампаніі да лягічнага завяршэньня*

* * *

*– Непахіснасьць магілёўскіх актывістаў выбарчай прэзыдэнцкай кампаніі, што праявілася падчас шматлікіх фактаў міліцэйскага, судовага і адміністрацыйнага ўціску на іх*

* * *

*АДМОЎНЫЯ ПАДЗЕІ*

*– Заўчасная сьмерць Генадзя Карпенкі, да таго-ж з прычыны і ў абставінах, якія выклікаюць у грамадзтве апраўданыя сумненьні ў натуральным характары ягонага скону*

* * *

*– Падвойны напад міліцэйскіх падразьдзяленьняў на памешканьне магілёўскай управы Беларускага Народнага Фронту, у ходзе якіх былі затрыманыя людзі, канфіскаваныя дакумэнты і апячатаныя сэйфы арганізацыі*

* * *

*– Ваяўнічае наведаньне прэзыдэнтам Беларусі Мілошавіча, падчас чаго ўзмацнілася прапагандысцкая кампанія падтрымкі таталітарнага югаслаўскага рэжыму і ўзьнікла рэальная небясьпека ўцягваньня нашай краіны ў ваенны канфлікт на Балканах*

## Запрашэньне, падобнае на позву

Масавасьць і энтузіязм удзельнікаў афіцыйных масавых мерапрыемстваў на павер аказваюцца арганізаванымі ўладай. Нібыта нічога дзіўнага тут няма: той, хто наладжвае мерапрыемства мусіць, зразумела, запрасіць на яго ўдзельнікаў, папярэдзіць аб месьце і часе правядзеньня, зьмесьце і сэнсе імпрэзы і г.д. Аднак тут гаворка ідзе аб запрашэньнях, ад якіх, як тое гаворыцца ў адным «мафіёзным» фільме, немагчыма адмовіцца. Улада на свае мерапрыемствы не запрашае, а загадвае прыбыць.

Так у Магілёве было падчас першамайскага мітынгу, а крыху раней – мітынгу з нагоды чарговай чарнобыльскай гадавіны. Пры гэтым райвыканкамы накіравалі кіраўнікам прадпрыемстваў і ўстановаў дакладныя заданьні аб тым, колькі трэба выставіць людзей, у якой колькасьці і якія плякаты, сьцягі і транспаранты мець пры сабе. Такім чынам улада, няўпэўненая ў сябе, наперад абумоўлівае настрой жывых людзей, які мусіць абавязкова супадаць з «устаноўкай». Інакш – чакай непрыемнасьцяў...

***Сымон ГЛАЗШТЭЙН***

## Прэзыдэнцкія выбары: цяпер слова – за народам

**Пазаўчора Вярхоўны Савет 13 скліканьня на сваім паседжаньні пацьвердзіў законнасьць і правамоцнасьць рашэньня Цэнтравыбаркаму пад старшынствам Віктара Ганчара, згодна якому працэдура прэзыдэнцкіх выбараў пачынаецца 6 траўня й працягваецца да прызначанай раней даты – 16 траўня. Сябры ўчастковых камісіяў сёньня пачнуць абыход кватэраў грамадзянаў. Такім чынам прызнана, што арганізаваць спэцыяльныя й адпаведна абсталяваныя выбарчыя ўчасткі ва ўмовах сілавога процідзеяньня ўлады абсалютна немагчыма.**

**У Звароце да выбаршчыкаў, што прыняў Вярхоўны Савет, гаворыцца аб тым, што толькі сам народ можа вызначыць свой лёс, і што ўдзел грамадзянаў Беларусі ў выбарах прэзыдэнта якраз і будзе сьведчаньнем іхняга выбару.**

***Уласная інфармацыя***

# Памяць: Імгненьні й Час.

## З фотаархіва © «ТМ»



*Год 1993. Абласная студыя тэлебачаньня. Рабочы момант перад пачаткам запісу перадачы з удзелам старшыні Вярхоўнага Савета Станіслава Шушкевіча.*

## Станіслаў Шушкевіч:

# «Я хачу верыць, што Беларусь — не балота»

***Ад рэдакцыі.*** ***Мы ўжо паведамлялі аб тым, што ў Менску адбыўся II Зьезд Беларускае сацыял-дэмакратычнае грамады, які прыняў новую Праграму партыі й заяву, якая тычылася абавязковае перарэгістрацыі палітычных арганізацыяў. У гэтым дакумэньце адзначана, што падобныя захады ўлады ёсьць зьдзекам над дэмакратычнымі сіламі краіны, але БСДГ не баіца гэтае працэдуры, бо ў яе шыхтох знаходзіцца дастаткова сябраў, каб быць перарэгістраванай. Напярэдадні зьезду адбыўся сэмінар «Шляхі сыстэмнае трансфармацыі на Беларусі». Асновай для яго паслужыў зборнік «Ненасільле і Беларусь», выдадзены БСДГ, у якім была прааналізаваная сусьветная практыка негвалтоўнага змаганьня супраць дыктатуры. Наш карэспандэнт сустрэўся зь лідэрам БСДГ Станіславам Шушкевічам.***

***– Вы нядаўна вярнуліся зь Нямеччыны, куды былі запрошаныя вашымі калегамі з бундэстагу. Дарэчы, зараз там пры ўладзе знаходзяцца сацыял-дэмакраты. Ці сапраўды праблемы Беларусі хвалююць Нямеччыну? Ці ведае тамтэйшае грамадзтва пра сытуацыю ў нашай краіне?***

– Я магу гаварыць толькі пра дэпутатаў бундэстагу, якія нас запрасілі. Дык вось бундэстаг пра нашы праблемы ведае. Гэта тычыцца ня толькі сацыял-дэмакратаў, але й дэпутатаў ад іншых фракцыяў. Праўда, я не магу радавацца й мець вялікія спадзяваньні, што сацыял-дэмакраты нам больш дапамогуць, бо іхняя пазыцыя ёсьць вельмі згодніцкай (я кажу пра групу «Беларусь», якую ачольвае Юта Цапф). Яны нам, безумоўна, спачуваюць. Яны, безумоўна, выступаюць за дэмакратыю. Але калі мы просім іх быць пасьлядоўнымі, калі мы просім іх пра канкрэтныя палітычныя заявы на пэўных этапах, – тут поўнага паразуменьня мы, нажаль, не дасягнулі. Дарэчы, як ні дзіўна, нас цалкам разумеюць і падтрымліваюць нямецкія «зялёныя». Калі мы сустракаліся з намесьнікам Ёшкі Фішара спадаром Фальмэрам, у нас не было ніякіх спрэчных пытаньняў. Нас таксама падтрымлівае кіраўнік бундэстагу спадар Цірзэ, які сам паходзіць з ГДР, таму ён цудоўна разумее сытуацыю, у якой апынулася Беларусь. Спадар Цірзэ сказаў, што зробіць усё ад яго залежнае, каб на Беларусі ўсталявалася дэмакратычная прававая дзяржава. Што да апазыцыі. Мы сустракаліся з былым міністрам эканомікі Карлам-Дытэрам Шпрангэлем, зь якім я даўно знаёмы. Трэба сказаць, што ХДС-ХСС цалкам падтрымлівае пазыцыі, на якіх стаіць Вярхоўны Савет Беларусі 13 скліканьня. Такім чынам, я мяркую, што калі дагэтуль нямецкія сацыял-дэмакраты падтрымлівалі нас на 60-70%, то пасьля нашае візыты яны будуць успрымаць нашае бачаньне сытуацыі дзесьці на 90%.

***– На якую дапамогу з боку нямецкіх парлямэнтарыяў вы разьлічваеце?***

– Мы гаварылі толькі пра палітычныя акцыі й заявы. Ніякіх мэркантыльных плянаў мы ня маем.

***– Нядаўна газэта віленскіх беларусаў «Рунь» надрукавала інфармацыю, што адна высокапастаўленая асоба афіцыйнага Менску заявіла, што Шушкевіч сёньня паўстаў бы перад судом за развал СССР, але нас стрымлівае толькі боязь міжнароднае ізаляцыі. Як вы ставіцеся да гэтае заявы?***

– Ад дурноты няма лекаў. І калі сярод афіцыйных асобаў ёсьць людзі, якія дагэтуль не разумеюць, што адбылося ў 1991 годзе, іх усё ж такі трэба спрабаваць лекаваць, а не спрачацца зь іхнымі думкамі.

***– Як вы ахарактарызуеце апошнюю сытуацыю ў дэмакратычным руху Беларусі?***

– Як усьведамленьне, што трэба рабіць. На Беларусі апошнім часам паўстаў шэраг невялічкіх групоўкаў, якія выдаюць сябе за вялізныя арганізацыі, што прэтэндуюць на важкую ролю ў палітычным жыцьці. Але гэта фактычна некалькі інтэлектуалаў, за плячыма якіх мала хто стаіць. І выбары прэзыдэнта, якія прызначаныя на 16 траўня, паказалі, хто ёсьць кім. Усе пагадзіліся (я маю на ўвазе дэмакратаў) браць удзел у гэтай кампаніі, але калі размова пайшла пра аб'ём канкрэтнае працы, то высьветлілася, што сярод гэтых новых структураў вельмі мала сапраўды дзеяздольных. У прыватнасьці, калі ўтвараліся акруговыя камісіі, высьветлілася, што БНФ можа накіраваць свайго рэпрэзэнтанта ў кожную камісію, АГП – таксама, нашая партыя БСДГ – у 150 са 180 камісіяў, а астатнія – толькі каля 20.

***– На вашую думку, ці адбудуцца паўнавартасныя прэзыдэнцкія выбары 16 траўня і ці будуць яны мець рэзананс і вагу для сусьветнае супольнасьці?***

– Калі будуць адкінутыя амбіцыі прэтэндэнтаў, што акрамя іх ня можа быць пераможцаў, калі мы будзем змагацца праз выбары за дэмакратычную прававую дзяржаву, то яны адбудуцца. І калі такая вялікая палітычная сіла, як БНФ, правядзе такую-ж працу, як і ў часе падрыхтоўкі, то выбары будуць паўнавартаснымі. Сумненьняў пра ўдзел іншых палітычных рухаў у мяне няма. А што да міжнароднае супольнасьці, то калі ў нас адбудуцца выбары, – кардынальным чынам зьменіцца стаўленьне так званых «памяркоўных» палітыкаў, грамадзкіх дзеячаў, таму што яны ўбачаць, што Беларусь – гэта не балота, а нармальная дзяржава, у якой ёсьць нармальны рух-апора. Я хачу верыць, што Беларусь не балота. І гэтыя прэзыдэнцкія выбары для нашае краіны ёсьць вельмі важкай падзеяй.

***Гутарыў Алесь ДАЙНЕКА***

## РОЗГАЛАС МЯСЦОВЫХ ВЫБАРАЎ

# Вяртаецца ў суд «царыца доказаў»

**Крычаўскія грамадзкія актывісты Лявон Сьвецік і Андрэй Кузьмін пакараныя штрафамі раённым судом за ўдзел у падпісаньні Заявы шэрагу дэмакратычных арганізацыяў краіны, якая напярэдадні выбараў у мясцовыя саветы заклікала грамадзянаў да дэмакратычных паводзінаў і пачуцьця адказнасьці за лёс Бацькаўшчыны.**

Нідзе ў сьвеце людзей не караюць за слова. Супрацьпраўнымі, як сьведчыць сусьветная практыка, могуць быць толькі дзеяньні альбо такія «словы», якія выразна носяць правакацыйны характар і сапраўды могуць пацягнуць за сабой прамыя небясьпечныя дзеяньні натоўпу або групы людзей. Ніякай небясьпецы для грамадзкага спакою ў згаданай вышэй Заяве няма. Ёсьць заклік да людзей падумаць аб краіне, сытуацыі ў ёй і наступствах сваіх абыякавых «палітычных» паводзінаў.

Крычаўскія падсудныя прызналі факт свайго падпісаньня гэтай Заявы. Для пракурора і судзьдзі гэтага хапіла, каб вынесьці вырок. Ніякіх іншых «доказаў» віны падсудных прыведзена і прааналізавана не было. Ці праўда менавіта гэтая Заява сталася для некага падставай для няўдзелу ў выбарах – такое, здаецца, першаснае пытаньне суд абсалютна не цікавіла. Яму хапіла «прызнаньня».

Тыя, хто ведае савецкую гісторыю, могуць успомніць, што прызнаньне чалавека ў нейкіх дзеяньнях лічылася «царыцай доказаў» у 37-ым і наступных гадах дзеяньня сталінскай рэпрэсыўнай машыны.

***Уласная інфармацыя***

## КРОНІКА ТЫДНЯ Ў ПАДЗЕЯХ І ФАКТАХ

***Сьвяточныя віншаваньні старшыняў выканкамаў і сфармаваных дэпутацкіх радаў*** *з нагоды Першага траўня, якія былі надрукаваныя ў мясцовых газэтах, гэтым разам былі «афарбаваныя» гісторыяй. Кіраўнікі «вэртыкаляў» аднекуль дазналіся, што гэтаму сьвяту пайшла другая сотня гадоў. Аднак у іхняй інтэрпрэтацыі сьвята ледзь не з пачатку мела менавіта клясавы пралетарскі характар, накіраваны на адзінства «народнай» улады і самога народа. Аднастайнасьць формы віншаваньняў і агульнасьць зьместу сьведчыць пра тое, што акцыя была падрыхтаваная ідэалягічнымі ўстановамі прэзыдэнцкай адміністрацыі, якая сёньня не давярае нікому нават такой дробязі.*

***Эканоміка Чэрыкаўскага раёна за першы квартал года спрацавала*** *са стратамі, якія ацэньваюцца ў 5 мільярдаў рублёў. Чавускія суседзі – яшчэ горш: стратнымі сталіся 22 калгасы з 23. Такія вынікі дае настойлівы працяг практыкі плянаваньня асноўных паказчыкаў народнай гаспадаркі. Роля эканамістаў, фінансістаў, кіраўнікоў галінаў і прадпрыемстваў пры гэтым зьведзеная да ролі наглядальнікаў над лічбамі: паказчыкі, як вядома, ніякім загадам не падначальваюцца, а жывуць адпаведна сваіх законаў і правілаў.*

***Праверка рацыёну і якасьці харчаваньня ў Цяхцінскім (Бялынічы) дзіцячым садку паказала,*** *што нормы забеспячэньня дзяцей прадуктамі выконваюцца напалову. Дзеці амаль ня бачаць птушынага мяса, сьвежай рыбы, сьметанковага масла і нават малака, садавіны і гародніны. Гэта кампэнсуецца перавышэньнем нормаў крупаў і бульбы.*



***Арганізацыйныя сэсіі раённых дэпутацкіх радаў паўсюдь прайшлі*** *«арганізавана і зладжана». Усюды дэпутатам было прапанавана па адной кандыдатуры на пасаду старшыні райвыканкама. Безальтэрнатыўныя выбары аднак, згодна закону, патрабавалі патаемнага галасаваньня. Яно не дало нечаканасьцяў: паўсюль старшыняў выбралі адзінагалосна.*

***Усё часьцей можна пачуць аб пераезьдзе ў нашы вёскі расейскіх беспрацоўных*** *цэлымі сем'ямі з суседніх Бранскай і Смаленскай губэрніяў. Нічога агульнага з дапамогай «братняму народу» гэта ня мае: беларуская вёска за апошнія гады асабліва спустошылася на людзей. Калгасы вельмі радыя любой дадатковай пары працоўных рук.*

***Жыхары Глуску пасьля нядаўняга «хлебнага скандалу»*** *больш уважліва зглядаюць боханы, якія набываюць у мясцовых крамах. Адміністрацыя райцэнтра тым часам высьвятляе абставіны, пры якіх здарылася тое, што на паліцы крамаў патрапіў хлеб, забруджаны птушыным пер'ем, пяском і іншымі «мэханічнымі дабаўкамі». Гандаль спасылаецца на асіповіцкі хлебазавод. На ім пачалася свая праверка. А пакупнікі цяпер імкнуцца ледзь не пераламліваць кожны бохан перад тым, як яго набыць.*

***Вядома, што якасьць любой палявой работы і, адпаведна, узровень ураджаю залежаць*** *ад якасьці апрацоўкі ворыва, здзелкі насеньня, нагляду за ўсходамі. Для гэтых мэтаў існуюць шматлікія і разнастайныя прычапныя агрэгаты, якіх чым больш – тым лепш. У Мсьціслаўскім раёне ў калгасах на сёньня захаваўся толькі адзіны тып агратэхнічных прычапных прыладаў: барана.*



***Усе сацыяльна-дэмаграфічныя паказчыкі ў Крычаве ў параўнаньні зь мінулым годам пагоршыліся:*** *менш дзяцей нарадзілася, больш людзей памёрла, колькасьць скасаваных шлюбаў перабольшала колькасьць узятых. Магчыма таму ЗАГС і раённая бібліятэка распачалі тэматычныя сустрэчы ў старэйшых школьных клясах па тэмату «падрыхтоўкі да сямейнага шчасьця».*

***Інфармацыйная служба «ТМ»***

КРОНІКА ТЫДНЯ Ў ПАДЗЕЯХ І ФАКТАХ

